Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 50 гр.



# Саха

Падпісная плата:
за год . . . . . . 5 зл.
за паўгода . . . 3 зл.
за тры месяцы . 1 зл. 50 гр

Адрэс рэдакцыі і адміністр.
Вільня Вострабрамская 9/22

Рэдакцыя прыймае ў справах часопісі ад 11 — 1 што дня, апрача сьвят.

БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЕ ГАСПАДАРКІ і КООПЭРАЦЫІ,

выдавецтва Цэнтральнага Саюзу Беларускіх Культурна-Асьветных і Гаспадарчых Арганізацыяў і Інстытуцыяў.

№ 2 (6) | Вільня. Люты 1931 г. | Год II.



## Зьмест:

Стар.
Найгалаўнейшыя недахопы нашай вясковай гаспадарцы . . . . . . . . . . . . 25
Нарысы па коопэрацыі . . . . . . . . . 27
Кароткія ўвагі да гадоўлі курэй . . . . . 31
Сейма кармовую моркву на лёгкіх грунтах 34
Сэрадэля . . . . . . . . . . . . . . . 35
Способы раньняга вырошчваньня бульбы . 38
Пчалярскі аддзел: На што трэба зьвярнуць увагу арганізуючы пчальнік. — Аб пчалінай сям'і. — Мядовыя расьліны ў шматпольнай гаспадарцы . . . . . 40
Пытаньні і адказы . . . . . . . . . 44
Палітычная хроніка . . . . . . . . . . 45

ДРУКАРНЯ Я. ЛЕВІНА, ВІЛЬНЯ, НЯМЕЦКАЯ 22.

Год 2-гі

# САХА

№ 2 (6)

БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ І КООПЭРАЦЫІ

Вільня Люты 1931



## Найгалаўнейшыя недахопы нашай вясковай гаспадаркі.

Пакуль вясковы гаспадар мог утаргаваць сякі-такі грош за збожжа, яшчэ неяк жыў і аб палепшаньні свае гаспадаркі ня думаў. Але вось, надыйшла такая пара, што што-б не прадаў, то ўсёроўна ня хопіць на залагоджаньне і найпільнейшых патрэбаў. І тут ужо гаспадар пачынае ламаць сабе галаў, як выйсьці з такога скрутнога стану і часьцей за ўсё ня можа даць сабе рады.

Чуюцца з усіх бакоў галасы, што трэба зьмяніць сваю збажовую гаспадарку на гадаўляную, што трэба трымаць больш дойнае жывёлы, а малако перарабляць у коопэратыўных таварыствах на масла і сыр і ў такім выглядзе шукаць для іх збыту. Адсюль выплывае, што і палёвую гаспадарку трэба прыстасаваць да інтэнсыўнае жывёлагадоўлі. Высяваць як найбольш кармовых буракоў, морквы, рэпы (турнэпсу), бручкі і інш. Высяваць больш канюшыны, а папар засяваць рознымі кармовымі мешанінамі і лубінам. Падсяваць у жыта сэрадэлю, а таксама падсяваць кармовую рэпу і моркву ў жыта, віку, лён, мак, каб можна было ў адзін год атрымаць два ўраджаі.

Усё гэта добра і шмат што з гэтага далося-б зрабіць у нашых умовах, але, калі разгледзішся па нашых вёсках, то пачынае нас агартаць жах.

Можа і знайшліся-б у вёсцы 2—3 чалавекі, якія-б пачалі пановаму гаспадарыць. Але-ж ці можа, напрыклад, адзін чалавек пасеяць у папары кармовую мяшанку, калі на ім пасецца грамадзкая жывёла, або падсяваць у жыта сэрадэлю, калі пасля збору яго ізноўжа на гэтыя палі выганяецца жывёла?!

Думаць аб тым, што ўся вёска, як адзін чалавек, можа заахвоціцца якім-небудзь новаўвядзеньнем — было-б вельмі наіўным. Гэта ня толькі ў нас, але і ўва ўсіх краінах у вёсцы так бывае. Трэба, каб селяне праз колькі год добра азнаёміліся з навінкай і толькі тады можна чакаць на карысьць яе ад сялян грамадзкае пастановы.

Кажуць, што конь некарысная жывёла ў гаспадарцы, што ён зьядае амаль не палавіну гаспадаркі, што ў дробнай гаспадарцы ня конь працуе на селяніна, а наадварот — селянін на каня. Праўда, чыстая праўда ў гэтым! Але-ж сам селянін не запражэцца ў плуг.

Селянін добра ведае колькі конь зьядае і якая ад яго карысьць, але нічога ня можа парадзіць.

Гавораць, што замест каня можна трымаць дзьве каровы і імі абрабляць тое самае поле, а ў дадатак да таго мець яшчэ ад іх малако, якое можна збываць у малачарскі коопэратыў і атрымоўваць гатовыя грошы.

— У коопэратыў, не ў коопэратыў, бо гэта ў нас таксама хутка ня робіцца, але, каб яго было даволі, то чалавек ня выліваў-бы яго вон. Няма коопэратыва, ня можна яго куда прадаць,—сам-бы больш яго спажываў. Менш-бы спатрэбілася сьвінога сала, а знача і лішняе парася мог-бы прадаць. Хоць тое, ды ня тое, але нейкі зыск чалавек-бы меў.

Усё гэта зразумела. Але, як толькі селянін падумае, так зараз-жа скажа: можа яно дзе і добра, але мне не абрабляць поля каровамі. Ды і запраўды,—тут трэба хутчэй з поля прыбраць (хмара надыходзіць, ці што), спрабуй тады за 1—2 вярсты заляцець з каровамі на поле! Дождж ня толькі намочыць на полі снапы, але і сам вернешся мокры з парожным возам. А гной вазіць! Дый ці мала ў якіх выпадках у гаспадарцы патрэбна шыбкае выкананьне.

Тым часам і на гэта маецца рада. Радзяць выйсьці на хутары.— На хутары, так на хутары, — рэч ня новая і гаспадар над гэтым ня мала думаў. І, здаецца, у карыснасьць гэтае справы селянін больш за ўсё верыць. Бо ці-ж прыемна працаваць на такіх загонах, па якіх і барана ня можа прайсьці?! А калі прыходзіцца плугам ад мяжы адбіраць, то ня толькі рукі, але і сярэдзіну адбярэ, а з чалавека і каня пара клубкамі валіць. Дык якія тут яшчэ доказы трэба?! — Усё зразумела. Але-ж спрабуй перанясьціся на хутар! Колькі гэта турбот і граша будзе каштаваць!

Праўда, на перанос будынкаў, правядзеньне мэліорацыі, куплю надзелаў для павялічэньня карлаватых гаспадарак ад іншых удзельнікаў камасацыі і на кошты тэхнічнага правядзеньня камасацыі ўрад удзеляе таннай (4 проц.) пазыцкі. У дадатак да таго, скамасаваныя гаспадаркі ў першыя два гады звальняюцца ад грунтовага падатку.

Усё гэта добра, але калі падумаць, што гаспадар у сучасны мамэнт і так ня можа зьвясьці канцы з канцамі, а тут яшчэ прыходзіцца абцяжваць гаспадарку даўгамі, то і ў адважнага могуць апусьціцца рукі. Куды ня кінь, так—клін.

Аднак, усёж-такі рабіць штось трэба. Так гаспадарка надалей заставацца ня можа. Пры цераспалосіцы (шнурох) ня можна прыстасавацца да вымогаў рынку. Ня можна гаспадару з малым надзелам завясьці ў сябе працаёмныя культуры. Завясьці ў сябе адпаведны сталы севазварот. Ды наагул нічога грунтоўнага нельга зрабіць для палепшаньня і падняцьця даходнасьці свае гаспадаркі.

Так вясковая гаспадарка доўга трываць ня можа і камасацыю рана ці позна правясьці прыдзецца. Загоны ў будучыні ня стануць шырэйшымі, а яшчэ будуць вузець.

Чым раней камасацыя будзе праведзена — тым ляпей. Хутчэй можна будзе прыступіць да лепшых спосабаў гаспадараваньня. Ця-

пер яшчэ пакуль што гаспадар карыстаецца старымі с.-гаспадарчымі прыладамі і нічога новага ня купляе, бо няма за што купіць. Але, калі старыя прылады зусім перастануць гадзіцца для ўжытку, тады ня толькі гаспадарку прыдзецца абцяжваць пазыкай на камасацыю, але прыдзецца пазычаць на барану і плуг.

Мала наракаць на цяжкое жыцьцё, але трэба шукаць нейкага выхаду, а ня чакаць пакуль палажэньне яшчэ пагоршае. **С. Б.**

---

# Нарысы па коопэрацыі.

(Працяг).

### 3) Шарль Фур'е (1772 — 1837).

Фур'е таксама, як і Оуэн, меў надзею шляхам прапаганды сваіх ідэй і закліку да „добрых пачуцьцяў“ пануючае клясы перабудаваць увесь сьвет на новых падставах. Яго крытыка буржуазна-капіталістычнага ладу і грамадзянства была забойчай для тых часоў.

„Ці магчыма — пытаецца Фур'е — выабразіць сабе больш страшэнны непарадак, чым той, які пануе на зямной кулі? Што гэта за грамадзянства — кожная частка якога дзее супроць іншых і супроць цэласьці, у якім кожная кляса жадае толькі задаваліць свае інтарэсы, у якім доктар жадае хваробы сваім грамадзянам, ксёндз — сьмерці, судзьдзя — праступленьня, ліхвяр — голаду, архітэктар — пажараў. Цывілізаваны сьвет складаецца з насьмешнікаў і ашуканцаў. (St. Wojciechowski стар. 23).

Ён даказваў, што толькі нязначная частка людзкасьці працуе прадукцыйна — большасьць людзей вядзе жыцьцё паразітаў, ці займаецца бескарыснай для грамадзянства працай, ці прыносіць яму сваей дзеяльнасьцю вядомую шкоду.

„Паразітную“ частку людзкасьці ён дзеліць на тры групы: хатнія паразіты (жонка, дзеці); грамадзкія (армія, б. частка фабрыкантаў і купцоў, усе сэквэстратары і т. д.) і дадатковыя (юрысты-судзьдзі, адвакаты, урадоўцы, жандары, жабракі, бандыты, праступнікі і іншыя).

Неправільная арганізацыя грамадзянства даводзіць да таго, што ўсе людзі выконваюць бескарысную, непатрэбную працу ці зусім нічога ня робяць. Такім чынам уся людзкасьць жыве на рахунак карыснае працы нязначнай меншасьці, сумным рэзультатам чаго зьяўляюцца масавая нэндза і распуста“ — (Д. Коренев, Коопэрацыя 1921 г. стар. 28).

Пераходзячы далей да арганізацыі карыснае працы — Фур'е даходзіць да таго вываду, што гэтая праца зьяўляецца паднявольнай, рабскай, вядзецца ў агідных умовах і дзеля гэтага яна малапрадукцыйна. Сама вытворчасьць арганізавана вельмі неразумна і вядзецца не ў інтарэсах усяго грамадзянства, а ў інтарэсах толькі аднае клясы прамыслоўцаў, якія канкуруюць адзін з адным.

Асаблівую ўвагу Фур'е зьвяртае на гандаль у сучасным грамадзянстве. Гэтая галіна эканамічнай дзеяльнасьці яму, як гандлёваму служачаму па прафэсыі, была асабліва добра вядомая.

Ён у некалькіх словах даў вельмі блізкое да праўды акрэсьленьне сучаснага гандлю з яго ашуканча-спэкулятыўным характарам.

„Гандаль — кажа ён — гэта штука купіць за 3 франкі тое, што каштуе 6 і прадаць за 6 фр. тое, што варта 3“.

Гэта трафнае акрэсьленьне астаецца правільным і да гэтае пары для ўсяго некоопэратыўнага гандлю.

Жыцьцё ў бурж.-капіталістычным грамадзянстве не задавольвала Фур'е і ён нарысаваў абраз „нармальна-арганізаванага“ краю, дзе зьніклі-б усе грамадзкія хваробы.

Паводле яго пляну „новы сьвет“ павінен быць арганізаваны пры дапамозе так зв. „земляробскіх асоцыяцыяў“ ці „Фалянг“, якія аб'яднал-іб групы людзей ад 600 да 700 сем'яў.

Капітал, неабходны для гэтай мэты, павінен быць створаны шляхам выпушчэньня адпаведных акцыяў.

Усе сябры камуны павінны жыць у адпаведна збудаваных вялікіх дамах-фалянстэрах—добра абстаўленых і маючых усе неабходныя ўдасканаленьні. У фалянгах Фур'е астаецца, аднак, прыватная ўласнасьць і даход паміж сябрамі дзеліцца ў акрэсьленых частках на „капітал, таланты кіраўнікоў і работнікаў ды працу“. Толькі зямля і варштаты вытворчасьці зьяўляюцца ўласнасьцю ўсяе грамады.

Арганізацыя фалянг, паводле яго погляду, павінна закладацца не на дабрадзейнасьці багатых людзей ці арганізацыяў, а павінна быць вынікам ініцыятывы і самадзейнасьці самых яе сяброў. Для зьдзейсьненьня гэтае мэты, перад усім, патрэбны былі сьродкі і то даволі значныя, дзеля чаго фактычна арганізацыяй фалянг маглі займацца пераважна людзі заможныя.

Капітал неабходны для арганізацыі аднэй фалянгі складаючайся з чатырыста сем'яў, Фур'е акрэсліў у адзін мільён франкаў. А адзін з яго прыхільнікаў дапушчаў нават, што пры колькасьці ўдзельнікаў складаўшых ня 400 сем'яў, а ўсяго толькі 400 асоб, неабходны мінімум 400,000 даляр., г. зн. па 1,000 дал. на асобу.

Саракавыя гады мінулага стагодзьдзя былі сьведкамі спробаў Фур'е, якія таксама кончыліся няўдачай: у працягу некалькі гадоў было арганізавана ня менш 30 фалянг у розных пунктах Амэрыкі і толькі 11 з гэтага ліку праіснавала больш 2-х гадоў.

У бальшасьці фалянг колькасьць сяброў не перавышала 200 чалавек. Найбольш даўгавечнымі аказаліся—фэрмы ў Brook- праіснавала 6 гадоў, Паўноч.-Амэр. фалянга — 12 гадоў, аб'яднаньне ў Nordhampton—4 г. і Віскансінская фалянга—6 гад.

Аб долі гэтых фалянгаў праф. Туг.-Бараноўскі дае цікавыя весткі. На чале фэрмы ў Brook, паложанай блізка Бостону,—аказалася некалькі прадстаўнікоў буржуазнай інтэлігенцыі, шукаўшай там, галоўным чынам, эстэтычных ды інтэлектуальных уцехаў. Колькасьць сяброў гэтай фалянгі дайшла да 150, большасьць якіх перш належала да нейкай рэлігійнай сэкты і толькі пасьля ператварылася ў прыхільнікаў навукі Фур'е.

Усе сябры фалянгі „атрымоўвалі аднолькавую плату за адноль-

кавы рабочы дзень. Праца кожната з іх мела быць дастасавана да яго здольнасьцяў і прывычак. Каб праца была павабнейшая, пастаноўлена зьмяняць яе кожнага дня Дзеці да 10 гадоў і старыкі вышэй 70 гадоў павінны былі мець дармавое ўтрыманьне, таксама дарма ўтрымоўваліся няздольныя да працы. Кожны мог выдаваць свой заработак і наагул усе свае даходы паводле сваей патрэбы, але, рэч простая, большасьць патрэбаў заспакойвалася за пасярэдніцтвам супольнае гаспадаркі". (Туг.-Бар.—Стар. 32).

Да якой клясы належалі ўдзельнікі фалянгі, ня гледзячы на адсутнасьць статыстычных дадзеных, можна ў пэўнай меры судзіць па вестках аднаго з яго ўдзельнікаў д-р. Codman'a, цытаваных Туг.-Баран. у сваей кнізе.

„Мы мелі патрэбную колькасьць філёзафаў, не хапала аднак простых работнікаў і добрых гаспадароў. Што-ж было рабіць? Ці мы мелі ў сваё кола пусьціць звычайных людзей, умеючых шыць боты і вопратку, габляваць, пілаваць і наагул здольных да выконваньня фізычных працаў, але ніколі ня чытаючых, ні Шыльлера, ні Гётэ, а можа быць нават Шэкспіра ці Скота, людзей не займаючыхся, ні лектурай, ні філёзофіяй". (Тур.-Бар. стар. 32).

Дзеля гэтага тут няма нічога дзіўнага, што ўсім гэтым „філёзофам" і „паэтам" хутка спрыкрылася „камуністычнае" жыцьцё і толькі быў неабходны выпадак, каб гэта грамада развалілася. Такім выпадкам быў пажар новапабудаванага дому і праз паўгоду пасьля гэтага здарэньня „камунары" разыйшліся.

Трэба дапушчаць, што пры такіх „поэтычных" і „філёзофскіх" нахілах большасьці сяброў грамады — праўдападобна некаму было займацца „чорнай" працай і для выконваньня яе прыходзілася наніmаць рабочых з боку.

Аб гэтых фактах Туган-Баран. не ўспамінае, але, нам здаецца, падобнае дапушчэньне вельмі блізка да праўды.

Заслугоўвае ўвагі фалянга ў Вісконсінсе, складаючаяся з 180 сяброў, выключна рабочых, уладаўшых на праве ўласнасьці 1800 акрамі зямлі.

Гэта была тыповая фур'ераўская фалянга, пратрымаўшаяся 6 гадоў і дасягнуўшая ў пэўнай меры дабрабыту, дзякуючы больш удачнаму падбору сваіх сяброў. Аднак і яе жыцьцё мела сумны канец, аб прычынах якога адзін з яе ўдзельнікаў, Warren Chase — дае нам наступныя падробнасьці: „Прычыны разьбіцьця мелі характар грамадзкі.

Мы не маглі зрабіць жыцьця ў грамадзе даволі прыемным. Шмат хто з нас думаў, што за межамі грамады дасягне большых рэзультатаў. Мы не маглі заклікаць больш багацейшых людзей, каб яны набывалі паі тых сяброў, якія выступалі і ў рэшце незадаволеньне ахапіла большасьць і мы перагаласавалі разьвязаньне арганізацыі" (Т.-Бар. 33).

Пры гэтым трэба зазначыць, што пры ліквідацыі арганізацыі ўдзельнікі яе атрымалі назад поўнасьцю усе свае паі з 8 процэнтовай надвыжкай.

Гэта апошняе лепш за ўсё характэрызуе матэрыяльны стан фалянгі, што, аднак, не перашкодзіла ей развваліцца.

Трэба затрымацца яшчэ на аднэй фалянзе фур'ераўскага тыпу — каб мець больш яснае прадстаўленьне аб характары гэтага руху, яго вартасьцях і недахопах.

Найбольш даўгавечнай аказалася Паўночна-Амэрыканская з 112 сябрамі, меўшая 700 акраў зямлі і ляжаўшая ўсяго на 40 міль ангел. ад Нью-Ёрку. Гэта фалянга адзначаўшаяся найлепшай арганізацыяй, праіснавала цэлых 12 гадоў, дасягнуўшы такім чынам максімальнага ўзросту гэтага тыпу арганізацыяў.

Аб способах аплаты рабочых мы маем наступныя весткі:

„Працы рознага роду былі аплачваны не аднолькава (супроць звычаю большасьці фалянгаў). Праца была аплачвана тым вышэй, чым была менш прыемная. Так, напр. цагельнікі атрымлівалі 10 цэнтаў за гадзіну, земляробы - 8 цэнт., дамовая служба і лекар—толькі $6^1/_4$ цэнт. Апрача гэтага дадаткова плацілася за асаблівыя здольнасьці і зручнасьці, так, напр., кіраўнікі пэўных аддзелаў гаспадаркі атрымлівалі дадатковую аплату—па 5 цэнт. у дзень. Аблічаны такім спосабам дзенны заработак важгаўся ад 6 да 10 цэнт. за гадзіну, прычым 10 цэнтаў уважалася за максімум.

Час працы і яе род пакідаўся кожнаму паводле яго пагляду. У канцы году наступаў падзел надвыжкі, прычым на рэч працы сярэдня выпадала 13 даляр., а за капітал плачана каля 5 проц. Утрыманьне ў фалянзе каштавала вельмі танна. Абеды запісваліся ў кніжачкі і абліча́ліся ў канцы месяца". (Т.-Бар., стар. 33).

Стан гэтай фалянгі быў натолькі добры, што яна магла збудаваць вельмі добры агульны дом, арганізаваць сельскую гаспадарку паводле навейшых мэтадаў навукі, мець значныя прадпрыемствы і г. д.

Сваім сябром фалянга рэгулярна выплачвала ад 4,4 проц. да 5,6 проц. гадавых на кожны паявы ўнос. У пэўных выпадках, напр. у часы жніва, фалянга змушана была карыстацца чужой рабочай сілай, аплачваючы яе па сярэдніх цэнах тых часоў.

Зусім зразумела, што гэтыя сэзоновыя рабочыя ня мелі ніякага голасу ў справах фалянгі.

У 1854 г. здарыўся пажар млына, які стаў прычынай распаданьня фалянгі. Ня гледзячы на тое, што адзін з удзельнікаў хацеў даць сродкі на будову новага млына - агульнае сабраньне адкінула гэту прапазыцыю і як кажа Туг.-Бар.:

„Зусім неспадзевана для большасьці прысутных, як быццам само з сябе паўстала пытаньне: ці ня лепш было-б зьліквідаваць увесь інтэрас? І к зьдзіўленьню саміх галасуючых—пастаноўлена ліквідацыя значнай большасьцю галасоў".

Трэба думаць, што зусім неспадзевана такія рэчы ня творацца—праўдападобна большасьць сяброў шукала толькі выпадку, каб мець магчымасьць ліквідаваць агульную справу.

Такім выпадкам быў пажар і фалянга разваліласяся.

Сацыялістычныя спробы Оуэна і Фур'е, ня гледзячы на іх сумны канец, не асталіся без уселякіх рэзультатаў і мелі аграмаднае грамадзякае значэньне, пакольні яны зьвярталі ўвагу шырокае народнае масы на неабходнасьць шукаць практычных выхадаў з таго палажэньня, у якім яны знаходзіліся. Уплывы навукі гэтых двух сацыялістаў былі аграмадныя, яны стварылі багатую літэратуру і прыцягнулі

шмат прыхільнікаў, каторыя сталі больш практычна разглядаць усе тыя пытаньні, якія былі парушаны гэтымі мысьліцелямі.

„Лёзунг Коопэрацыі, лёзунг супрацоўніцтва і самадзейнасьці мас - ідэя грамадзкасьці—як кажа Коренев—нашлі ў тадышняй Англіі вельмі падатны грунт.

Выступленьні Оуэна і Фур'е былі вельмі своечаснымі. У выніку таго ўмысловага штуршка, які быў дадзены масам, тыя апошнія наткуніліся ў канцы канцоў на ідэю арганізацыі коопэратываў у іх сучасным выглядзе.

Сучасная коопэрацыя наагул нічога супольнага ня мае з фалянгамі Фур'е і грамадамі Оуэна. Аднак не падлягае сумліву, што сама навука гэтых двух утапістаў карміла сваімі ідэямі коопэр. рух. Адна з галоўных думак Фур'е была ўсвоена коопэрацыяй і гэта ідэя паслужыла асновай паўстаньня коопэратыўных арганізацыяў: зьнішчэньне паразітнага гандлёвага пасярэдніцтва".

**Ф. Акінчыц.**

(Працяг будзе).

---

# Кароткія ўвагі да гадоўлі курэй.

На гадоўлю курэй гаспадары нашы да гэтае пары зьвярталі мала ўвагі і трымалі іх у абмежанай колькасьці. Наагул гадавалася ў гаспадарцы толькі курэй, колькі іх зможа знайсьці сабе галоўны корм навокал сядзібы, а кармленьне „з рук" абмежвалася на некалькі зімовых месяцаў.

Тым часам цяпер, калі збожжа патанела, а гэта знача, што і пракармленьне курэй менш каштуе, трэба на гэтую галіну гаспадаркі зьвярнуць большую ўвагу.

Зразумела, што пры цяперашняй носнасьці нашых курэй, з гадоўлею іх шырака не разгорнешся. Недаўна рэдакцыя „Сахі" атрымала пісьмо ад аднаго свайго падпішчыка, у якім той піша, што ў 1930 годзе трымаў 15 курэй і правёў над імі сьціслую кантролю носнасьці. Куры, паводле яго слоў, мелі больш-менш адпаведны дагляд і кармленьне. Ня гледзячы на гэта, вынікі кантролі аказаліся вельмі сумнымі. За год гэтыя куры зьнясьлі толькі 451 яйцо на суму 42 злоты і 72 грошы. Праўда, што куры нашага падпішчыка ў тым годзе хварэлі. Але так ці іначай, а такая носнасьць (30 яец на курку ў год) ёсьць зусім не задавальняючай. Ня можна думаць, што пры такой носнасьці курэй гаспадар мае нейкі зыск. Разьлічаць на даход можна тады, калі курка ў сярэднім зьнясе ў год каля 100 яец.

Тым часам у прамысловых курыных гаспадарках заграніцай курка нясе у сярэднім 130—200 яец. Трэба і нам падумаць аб тым, каб гадоўлю курэй зрабіць даходнаю галінаю свае гаспадаркі.

Даходнасьць-жа гэта можа быць толькі пры наступных умовах: 1) калі будзем трымаць курэй высокай носнасьці і 2) калі іх будзем адпаведна карміць і даглядаць.

1. Высокай носнасьцю адзначаюцца некаторыя загранічныя пароды, з якіх найбольшай славай карыстаюцца леггорны і мінорні. Куры гэтых пародаў нясуць у год 200 і больш яец. Але мусім тут зазначыць, што загранічныя пароды ў нашых умовах трацяць свае добрыя якасьці (дэгенэруюць). Для гадоўлі гэтых парод вымагаецца спэцыяльны дагляд.

У ўмовах нашай вясковай гаспадаркі найлепш палепшыць сваю ўласную пароду курэй. Палепшаньне гэта можа быць праведзена двумя шляхамі: 1) шляхам падбору і 2) шляхам крыжаваньня.

Першы спосаб задоўгі, але пэўны. Пры гэтым спосабе пакідаюцца для гадоўлі куркі і пятухі ад найлепшых носак, дзеля таго, што носнасьць ёсьць адзнакаю спадковаю і перадаецца нашчадкам.

Другі спосаб, спосаб крыжаваньня палягае на тым, што ў чародку сваіх мясцовых курэй пушчаецца пятух загранічных носных парод. А потым, падборам найлепшых носак і пятухоў ад найлепшых носак, можна павысіўшуюся носнасьць сваіх курэй замацаваць. Добра, калі такую працу вядзе некалькі гаспадароў, каб можна было мяняцца добрымі пятухамі, бо блізкое сваяцтва пятуха і куркі шкодна адбіваецца як на здароўі, так і на прадукцыі нашчадкаў.

2. Другім вельмі важным чыннікам, які ўплывае на носнасьць курэй, гэта — кармленьне і дагляд. Нават і добрыя ноські, калі яны ня будуць даставаць адпаведнага корму як па колькасьці, так і па складу, ня будуць добра нясьціся.

Асабліва важна гэта зімою, калі куркі, знаходзячыся ў курніку, ня могуць адшукаць сабе адпаведнага, патрэбнага корму як для падтрыманьня свайго арганізму, так і для прадукаваньня яец. Гаспадар можа нават і ўдоваль карміць сваіх курэй, але паасобныя спажыўныя складнікі ня ў кожным корме будуць усе і не заўсёды ў такой колькасьці, стасоўна адзін да аднаго, у якой патрабуе курка дзеля вытварэньня яйца. Адных спажыўных складнікоў можа быць зашмат, а другіх—замала. Новачасныя гадоўцы кормяць сваіх курэй паводле пэўных нормаў, дзякуючы чаму, куры атрымоўваюць корм як па якасьці, так і колькасьці адпаведна прадукцыі. У ўмовах нашай вясковай гаспадаркі правясьці гэта ня так лёгка, а таму мы тут пакажам толькі некаторыя найагульнейшыя засады, якімі гадоўца павінен карыстацца пры кармленьні.

Зразумела, што найбольш адпаведна корміцца курка ў цёплую пару году, бо тады яна сама сабе знаходзіць корм, які патрабуе. А дзеля гэтага мы бачым, што куры, як пачнуць хадзіць па надворку, зачнуць і нясьціся. Калі мы хочам, каб куры і зімою нясьліся, мусім тады даваць ім корм больш-менш такі, які яны самі знаходзяць у цёплую пару.

Чым-жа кормяцца куры ў цёплую пару году? — У гэты час яны зьбіраюць розныя зярняты, чарвячкі, скубуць сьвежую траву і г. д. Адсюль мы бачым, што куры жывяцца кормам як расьліннага, так і зьвярынага паходжаньня. Дзеля гэтага і ў зімку курам мусім даваць прыблізна такі корм.

Найбольш адпаведным зернавым кормам для курэй будзе такі,

калі гэтыя зерняты будуць ад рознаякіх расьлін. Толькі жыта ня трэба даваць зашмат, бо яно выклікае ў курэй бягунку. Таксама вялікая колькасьць ячменю ня ёсьць карыснай для носных курэй, бо ад ячменю куры тлусьцеюць, а тлустыя куры кепска нясуцца.

Найпажыўнейшым зернавым кормам, які і найбольш любяць куры—гэта пшаніца.

Добра ў сільныя маразы падсыпаць курам канаплянага, сонечнікавага або льнянага семя, з якіх вытвараецца шмат цяпла. Даваць збожжа на курку ў дзень каля 50 грамаў і 25 грамаў вотрубяў.

Кормам зьвярынага паходжаньня зьяўляецца звычайна мясная мука або сушаная кроў. Мясное мукі даецца каля 10 грамаў. Замест мясное мукі можна даваць тварог з малака. Корм паходжаньня зьвярынага вельмі добра ўплывае на носнасьць курэй. Заўважана, што нідзе не спасьцерагалася добрай носнасьці ў курэй, дзе не давалі ім корму паходжаньня зьвярынага.

Практыкаю ўстаноўлена, што даданьне да корму касьцянае мукі вельмі добра ўплывае на носнасьць курэй. Касьцянае мукі даецца на курку 5 грамаў. Таксама добра даваць стоўчаныя шкарлупкі яец. Касьцяная мука найлепшая з сырых касьцей. Касьцяную муку, хоць трохі горшай якасьці, можна прыгатаваць і самому такім спосабам: косьці некалька дзён кладуцца ў гарачую печ, дзе яны струхлеюць, а потым іх ужо можна стаўчы ў ступе ў парашок.

Апрача зярна і мясное мукі, даюцца курам і грубыя кормы, як бульба, буракі, морква, канюшынная мякіна і інш. Грубыя кормы скармляюцца часьцей у выглядзе мешанак. Бульбу і буракі параць, таўкуць і да іх дамешваюць вотрубі, мясную муку, касьцяную муку, канюшынную мякіну або пацяруху з сена і інш. Бульбы шмат даваць ня варта, бо куры ад яе тучнеюць. Бульба даецца паранай—50 грамаў на курку. Буракі, апрача таго, што могуць быць ужыты паранымі да мяшанкі, можна ды і карысна даваць іх сырымі. Добра дадаваць у мяшанку сухую, цёртую крапіву.

У асобным карытку трэба ставіць курам драўляны вугаль, крэйду, тоўчаную цэглу і пясок.

Некаторыя кураводы радзяць яшчэ дадаваць раз у тыдзень або ў два некалькі расьцёртых зубкоў часныку. Малы дадатак солі таксама карысны.

Даючы вышэй пададзены корм, мы да пэўнай меры заступаем корм, які куры знаходзяць сабе ў цёплую пару году. Аб адным толькі зялёным корме мы не гаварылі. Тым часам зялёны корм вельмі добра ўплывае на носнасьць курэй. Дзеля таго, каб куры і зімою мелі зялёны корм, хоць і ў абмяжаванай колькасьці, добрыя кураводы спэцыяльна для гэтага прарошчваюць розныя зярняты і ў такім выглядзе скормліваюць іх курамі. Такі корм добра ўплывае на носнасьць і куры яго вельмі ахвотна ядуць.

**В. К.**

---

# Сейма кармовую моркву на лёгкіх грунтах.

Кармовая морква ня ставіць вялікіх вымог што да грунту і ўдаецца на лёгкіх бяднейшых грунтах, а разам з тым зьяўляецца найлепшай кармовой расьлінай з усіх караньплодаў. Корань морквы вельмі пажыўны і можа служыць добрым кормам для ўсяе гаспадарчае жывёлы, як старэйшае, так і малодшае. Моркваю нават можна часткова замяніць авёс для коней. Коням даецца каля 4—6 кілёгр. на пару. Таксама морква лічыцца вельмі добрым кормам для малочных кароў.

Найлепшай глебай для морквы лічыцца глеба пяшчана-гліністая і глініста-пяшчаная з дастаткам перагною і вапны.

Ня любіць морква залішняй вільгаці. Добра зносіць суш, але толькі ў пазнейшы час свайго росту, калі добра ўкараніцца. А дзеля таго ня трэба пазьніцца з пасевам морквы, каб насеньне яе магло папасьці яшчэ ў вільготную глебу.

Морква патрабуе глыбокай, добра распрацаванай і вольнай ад пустазельля глебы. Дзеля таго на палях, дзе шмат пустазельля, лепей высяваць яе пасьля бульбы. Калі морква мае сеяцца пасьля азімага або яравога збожжа, то трэба пасьля збору апошніх правясьці плыткую ворку, а на зіму араць глыбака, лепей яшчэ з паглыбячом. Вясеньняй воркі трэба асьцерагацца, каб не перасушыць глебы і ня мець шмат пустазельля, насеньня якога пры вясеньняй ворцы выворваецца на верх і пасьля пасеву прарастае.

Найлепш гной пад моркву даваць увосені і то добра перагніўшы, бо ў сьвежым гнаі ёсьць шмат насеньня пустазельля. Морква вельмі добра аплачвае хлеўны гной, а таксама і зялёныя гнаі. Глебы бедныя на вапну, трэба пад моркву вапнаваць. Добры ўплыў на ўраджай морквы робяць таксама паташовыя гнаі.

Найгалаўнейшай задачай гаспадара пры сяўбе морквы ёсьць — даць ёй магчымасьць добрых усходаў і абараніць пасеў яе ад зарастаньня пустазельлем. А гэта з тае прычыны, што насеньне морквы доўга не прарастае (каля 3 тыдняў) і пасьля таго, як прарасьце, у першыя часы расьце вельмі павольі.

Сеяць моркву, як ужо гаварылася, трэба загадзя, калі зямля яшчэ даволі вільготная. А часта для лепшай усходнасьці насеньне яшчэ мочыцца ў працягу 24 гадзін. Насеньне мусіць быць перацёртае, каб ня было на ім шчацінаватых зачэпак, якімі зярняты адно за другое чапаюцца і кепска рассяваюцца. Сеецца морква ў радкі радавою сеялкай, а пры меншай плошчы можна сеяць і рукамі. Пры апошнім спосабе радкі робяцца значнікам, у якія ўжо з рукі высяваецца насеньне. Адлегласьць радка ад радка павінна быць 30—40 цэнт. (каля $6^1/_2$—9 вяршкоў). Насеньне трэба засыпаць зямлёю вельмі плытка, ня глыбей як на $^1/_2$—$1^1/_2$ цэнт. (меней $^1/_2$ вяршка).

Для роўнамернага рассяваньня насеньня дамешваюць да яго пяску, колькасьцю у 3—4 разы большай за колькасьць насеньня. Дамешваецца часта таксама да насеньня трохі ячменю, які хутка ўзойдзе і пакажа, дзе знаходзяцца радкі. Робіцца гэта для таго, што часта бывае патрэба ўспульхніць матыкай зямлю між радкамі і зьні-

шчыць пустазельле яшчэ да ўзыходу морквы. Такое матыкаваньне паміж радкамі трэба рабіць часьцей, асабліва ў першыя часы пасьля ўзыходу морквы. У большых гаспадарках замест матыкаваньня поля праежджаецца плянэтам (палольнікам). Насеньне морквы пры радавым пасеве высяваецца каля 6—7 кілёграмаў на гэктар. Калі морква вырасьце ўжо вышынёю 4—6 цэнт., тады яе прарываюць, пакідаючы адну расьлінку ад другое на 10—12 цэнтымэтраў.

Апрача чыстага пасеву, падсяваецца морква і ў іншыя расьліны. Такімі расьлінамі могуць быць: мак, азімае жыта, лён і інш. Пад азімае морква падсяваецца як і канюшына, вясною перад баранаваньнем азімага.

Насеньне маку можна зьмяшаць з моркваю і высяваць разам у радкі, а пасьля таго, як расьліны гэтыя адрастуць, трэба іх прарваць, прычым трэба старацца, каб мак з моркваю чаргаваліся. Такі камбінаваны пасеў маку з моркваю вельмі карысны, дзеля таго, што мак ня вельмі зацяняе глебу і морква мае лепшыя ўмовы для свайго развіцьця, чым мела-б будучы падсеяна ў іншыя расьліны, больш зацяняючыя грунт. Поле і тут трэба матыкаваць, як і пры чыстым пасеве.

Моркву можна зьбіраць з поля пазьней за буракі і бульбу, бо яна не баіцца марозу. Да таго не карысна загадзя выбіраць моркву і таму, што яна ў такім выпадку хутчэй псуецца.

Кармовая морква зьяўляецца, як мы ўжо гаварылі, вельмі добрым кормам і мае толькі той недастатак, што кепска перахоўваецца, а таму трэба старацца ёю карміць жывёлу ў першую чаргу.

Найлепшымі гатункамі кармовае морквы можна лічыць Белую зелянагаловую і Супра Вэйбуля.

**С. А.**

---

# СЭРАДЭЛЯ.

Адною з найлепшых кармовых траваў, якая надаецца добра для пяшчаных грунтаў, лічыцца сэрадэля. Нездарма і завуць яе канюшынай пяшчаных глебаў.

Часта нашы гаспадары ня ведаюць, што рабіць, калі ў іх не ўдаецца канюшына. Ня родзіць канюшына ў большасьці выпадкаў таму, што ў глебе замала вапны. Вось, на такіх глебах трэба і сеяць сэрадэлю, бо яна ня зносіць вялікай колькасьці вапны ў глебе. З усіх матыльковых толькі **сэрадэля і лубін ня любіць вапны.**

Ня гледзячы на тое, што сэрадэля можа добра расьці і на бедных пяшчаных глебах, усёж-такі яна патрабуе, каб у глебе была адпаведная колькасьць вільгаці. Асабліва карысна сеяць сэрадэлю на неўраджайных глебах, як чысты пасеў. На глебах зьвязьнейшых дае добрыя ўкосы без усякага ўгнаеньня. Вялікай колькасьцю досьледаў устаноўлена, што на бедных пяшчаных грунтах сэрадэля добра аплачвае хлеўны гной. На ўгноеных палёх ураджай сэрадэлі быў большы прыблізна ў 4 разы, чым на няўгноеных. Асабліва патрэбна

гнаіць сухія пяшчаныя глебы. З штучных гнаёў для сэрадэлі першачарговае значэньня маюць паташовыя гнаі, а потым фосфарныя.

Сэрадэлю можна сеяць як чысты пасеў, або падсяваць у іншыя расьліны. Пры чыстым пасеве сэрадэлі трэба зьвярнуць пільную ўвагу, каб поле было чыста ад пустазельля. З гэтай прычыны добра сеяць яе пасьля бульбы або грэчкі. Калі-ж мае быць засеяна сэрадэля пасьля збажыны, то карысна загадзя плытка загараць іржышча і другі раз гараць позна ўвосені.

Высяваючы сэрадэлю, трэба старацца, каб гэты пасеў адбыўся як найраньней, - каб зерня папала ў вільготную зямлю, бо суш найбольш шкодна ў першыя часы разьвіцьця сэрадэлі. Сеецца сэрадэля звычайна з самымі раньнімі яравымі пасевамі, а часта і яшчэ раней.

Сеяць сэрадэлю трэба вельмі плытка, ня глыбей 2 цэнт. (палавіну вяршка). Чым зьвязьнейша глеба, тым плытчэй трэба сеяць. Дзеля таго, каб зерняты не запалі глыбака ў зямлю, трэба ўзаранае поле спачатку забаранаваць, рассеяць насеньне і потым ізноў забаранаваць лёгкімі баронамі. Раскіданым спосабам высяваецца сэрадэлі 50—70 кілёграмаў на гэктар (3 - 5 пуд.).

Ляпей за ўсё, калі сэрадэля сеецца радавою сеялкаю. Тады ня толькі можна адпаведна ўрэгуляваць глыбіню пасеву, але потым, як узойдзе сэрадэля, лёгка яе палоць спэцыяльным палольнікам (плянэтам) або матыкай.

Пустазельле вельмі шкодзіць сэрадэлі, дзеля таго, што ў першыя часы яна кепска разьвіваецца і не зацяняе грунту. Дзеля барацьбы з пустазельлем, трэба старацца, як ужо раней гаварылася, сеяць яе на чыстых палёх, у праціўным разе, калі зьявіцца пустазельле, трэба яго выпалаць. Калі парасьце такое пустазельле, як сьвірэпка, то найлягчэй мы пазбавімся гэтага пустазельля, калі скосім яго пасьля таго, як яно зацьвіце.

Калі хочаш атрымаць добрае сена, то трэба сэрадэлю касіць загадзя. Даволі добрае сена і значна больш атрымаем сена, калі будзем касіць яе пасьля таго, як паасобныя стручкі ўжо пасьпеюць. Найлепей сушыць сэрадэлю на азяродах або ў маленькіх кучках. Часта варушыць скошаную сэрадэлю не рэкамэндуецца. На насеньне косіцца сэрадэля тады, калі ніжэйшыя стручкі добра высьпеюць, а большасьць верхніх налівецца. Частку насеньня можна атрымаць пры пазьнейшай касьбе сэрадэлі на сена. Дзеля таго, што стручкі сэрадэлі лёгка абіваюцца, рэкамэндуецца перад накладаньнем на воз ператрасьці яе над посьцілкай.

Апрача чыстага пасеву, падсяваецца сэрадэля, як ужо гаварылася, у іншыя расьліны. Сэрадэлю можна лічыць адною з найлепшых падсяўных расьлін. Пры гэтым, будучы падсеянай, сэрадэля шмат ня шкодзіць і пакрыўной расьліне, у якую падсеяна. Досьледы паказалі, што розьніца ў ураджаях збажын з падсеянай сэрадэляй і без яе выражаецца ў якіх небудзь пару пудох на дзесяціну.

Падсяваць сэрадэлю можна як у азімыя, так і яравыя пасевы. Найлепей яе падсяваць у тыя расьліны, якія загадзя зьбіраюцца з поля. Дзеля таго вельмі карысна падсяваць сэрадэлю ў аўсяна-вікавую мешаніну, пасеяную ў папары ці іншай палетцы.

З азімых пасеваў найчасьцей падсяваюць сэрадэлю ў жыта. У жыта падсяваецца сэрадэля загадзя вясною, калі глеба даволі вільготная; тады і забаронваньне яе не зьяўляецца патрэбным, у праціўным разе трэба пасьля падсеву лёгка забаранаваць жалезнай бараною Больш зьвязныя глебы можна баранаваць сьмялей. Высяваецца ручным спосабам каля 60—70 кілёграмаў на гэктар.

Найбольшую карысьць з падсяўное сэрадэлі атрымаем, калі пад галоўную расьліну будзе дадзены гной.

Найлепшай пакрыўною расьлінай з яравых, у якія можна падсяваць сэрадэлю, зьяўляецца ячмень. Есьць толькі небясьпека, што ў дажджлівыя гады сэрадэля можа перарасьці ячмень і глушыць яго. Каб запабегчы гэтаму, часта падсяваюць сэрадэлю ў яравы пасеў тады, калі ярына падрасьце да высокасьці 10 цэнтымэтраў (каля 2-х вяршкоў). Калі-ж сеецца сэрадэля разам з галоўнаю яравою расьлінай, то трэба засеяць наперад галоўную расьліну, як звычайна, і забаранаваць, а пасьля рассеяць сэрадэлю і лёгка забаранаваць.

Апрача таго, што сэрадэля дае добры зялёны корм і сена, можа служыць яна таксама добрым зялёным угнаеньнем. Найчасьцей на ўгнаеньне пакідаецца атава сэрадэлі пры чыстым пасеве, або падсеяна ў іншую расьліну. На зялёны гной заворваецца сэрадэля позняй восеньню, хаця, як паказала шмат досьледаў, карысна на пяшчаных глебах заворваць пад ярыну вясною.

Апрача таго, што загараная зялёная маса сэрадэлі зьяўляецца добрым угнаеньнем, таксама добры ўплыў на ўраджайнасьць глебы робіць самы пасеў сэрадэлі, калі мы яе косім на сена, бо ў карэньнях яе знаходзіцца шмат азоту, якога патрабуюць усе расьліны.

На заканьчэньне мусім сказаць, што сэрадэля першы раз засеяна на полі, на якім яна раней ня сеялася, удаецца кепска. А гэта з тае прычыны, што ў глебе няма тых бактэрыяў, якія селяцца ў карэньнях сэрадэлі (гэтыя-ж бактэрыі бяруць з паветра азот, з якога потым карыстае расьліна).

Дзеля гэтага сьвежае поля трэба заразіць гэтымі бактэрыямі. Заражаюць глебу бактэрыямі трыма спосабамі: 1) раскідаюць на полі зямлю ў колькасьці 5—10 квінталяў (квінталь 100 кілёгр.—каля 6 пуд.) з таго поля, дзе ўжо сеялася сэрадэля, 2) заражаецца яшчэ тым, што насеньне мяшаецца з вільготнаю зямлёю (зямля з поля, дзе расла сэрадэля) і 3) падсяваецца ў папярэднюю расьліну малая колькасьць (2—3 кілёгр.) насеньня сэрадэлі для заражэньня глебы. На палёх, дзе рос лубін, заражаць глебу ня трэба. **С. А.**

---

**Зьвяртаем увагу паважаных грамадзян падпішчыкаў, што РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ „САХІ“ месьцяцца цяпер**

**Wilno, Ostrobramska 9, m. 22,**

**куды просім скіроўваць усю карэспандэнцыю і падпіску.**

# Спосабы раньняго вырошчваньня бульбы.

(*Па П. Штейнбергу*).

Вырошчваньне раньняе бульбы вельмі аплатнае і варта было-б нашым гаспадаром, асабліва тым, якія знаходзяцца блізка гарадаў заняцца гэтаю працаю. Апрача таго, што рана паступаючая ў прадажу бульба мае высокую цану, утаргоўвае гаспадар за яе грошы якраз у той час, калі ў яго гэтых грошай ня бывае і калі няма за што іншае ўтаргаваць. Тут мы дамо некалькі найбольш прасьцейшых спосабаў раньняга вырошчваньня бульбы.

I. Для вырошчваньня раньняе бульбы, бульбіны, прызначаныя к пасадцы, кладуцца ў вільготнае пілавіньне; замест цэлых бульбін можна ўжыць і рэзаныя, але тады трэба мейсцы рэзаў пасыпаць попелам і так пакінуць іх ляжаць у працягу 24 гадзін.

На дно скрынкі, у якой мае высаджвацца бульба, сыпецца пілавіньне таўсьцінёю 5—9 цэнт. (1—2 вяршкі), на пілавіньне кладзецца бульба, а наверх бульбы - ізноў пілавіньне таўсьцінёю 5 цэнтымэтраў (1 вяршок).

Пры дастатачнай цяплыні і вільгаці, за два тыдні можна атрымаць расткі і карэньне. Праросшыя бульбіны ў пачатках красавіка трэба перасадзіць у скрынкі з добрай, парніковай ці агароднаю зямлёю. Пры гэтым садзіцца такім чынам, каб расткі былі амаль што ў лежачым палажэньні і ў аддаленьні аднае бульбіны ад другое 1—1½ вяршкі; зьверху насыпаецца на іх пласт зямлі таўсьцінёю ў ½ вяршка.

Скрынкі трэба ставіць бліжэй да сьвету і паліваць разы два ў тыдзень вадою. Вада трэба, каб была каля 12—14° цяплыні (прыблізна хатняе тэмпаратуры). Пачаткам мая гэтая бульба перасаджваецца ў зямлю, але карысна, калі за 10 дзён перад гэтым пасадзіць яе ў парнік.

II. Перад пасадкай разрэзваюць бульбу на 2—3 часткі, месца рэзу пасыпаецца попелам і рассыпаюць яе на падлозе сьветлае хаты, каб бульба прарасла. Робіцца гэта за тыдняў 3 перад пасадкай. Пры пасадцы пад кожную бульбіну падсыпаецца жменя добра перапрэўшага хлеўнага гною.

Калі бульбянік дасягне вяршкоў 8, тады яе асыпаюць. Пры гэтым бульбянік прыгінаецца к зямлі ўва ўсе бакі; засыпаць трэба пластам пухкае зямлі таўсьцінёю ў 1½ вяршкі.

Калі незасыпаныя вяршкі бульбяніку адрастуць на вяршкоў 8, то асыпаньне паўтараецца, як і ў першым разе. Пры гэтым спосабе бульба высьпявае на 2 тыдні раней.

III. Для атрыманьня раньняе бульбы, выбіраецца кавалак поля ці гароду і на ім загадзя капаюцца раўчукі глыбінёю прыблізна

ў адзін штых, пры гэтым выкапаную зямлю кладуць тут-жа на адзін бок раўка.

Калі глеба малаўрадлівая, то яе некалькі разоў паліваюць хлеўнай жыжкай.

Пачаткам красавіка раўчукі запаўняюцца лісьцём, а таксама перапрэўшым сьвежым конскім гноем, пры чым усё гэта перамешваецца і раўняецца.

На гной насыпаецца зямля таўсьцінёю ў $1^1/_2$—2 вяршкі. У прыратаваныя такім чынам раўкі, у свой час высаджваецца бульба. Перад гэтым трэба, каб бульба прарасла ў сьветлай і цёплай хаце.

У радкох бульбіны садзяцца на 10 вяршкоў адна ад аднае (пры 15 вяршковай адлегласьці паміж раўкамі).

Бульбіны трэба садзіць расткамі ў гару.

Далей тут падамо яшчэ спосаб, як атрымаць падвойны ўраджай бульбы.

IV. Бульбу, прызначаную да пасадкі, трэба перш за ўсё прарасьціць. Прарошчваюць яе ў цёплым памяшчэньні (напр. у хаце). Бульбіны сыпяць у плыткія скрынкі, або раскладаюцца на палічках у адзін рад. Прарошчваньне трэба пачаць у месяцы лютым. У пачатку красавіка бульбіны дадуць таўстыя расткі. Калі надыйдзе пара, бульбу садзяць у зямлю. Ня трэба забывацца, што глеба павінна быць пагноена. Садзяць пад шнур і досыць плытка. Пласт глебы пад бульбай не павінен быць большы 2 вяршкоў.

Асыпаньне робіцца тады, калі бульбянік адрасьце на вышыню 4 вяршкоў, а потым асыпаецца бульба яшчэ раз, калі падрасьце ізноў на такую вышыню.

У пачатку чэрвеня бульба ўжо пасьпее і можна яе выбіраць. Бульбяныя кусты выкопваюцца за дапамогаю лапаты У выкапаным кусьце вырываюцца большыя бульбіны, а дробныя пакідаюцца. Калі ўжо невялікі кавалак выкапаны, тады кусты з абарванымі бульбінамі садзяцца ізноў.

Пасадка праводзіцца такім чынам: у зямлі робіцца ямка, у якую наліваецца $^1/_2$ вядра вады і куст садзіцца проста ў лужыну, па магчымасьці распраўляючы карэньне; пасьля куст асыпаецца, каб не паваліўся. Праз тыдзень бульба пачне ізноў расьці і можа к восені даць другі вялікі ўраджай бульбы — ад 15 да 36 штук з куста.

**М. К.**



# ПЧАЛЯРСКІ АДДЗЕЛ.

Пад рэдакцыяй старшыні Бел. Каапэратыўн. Т-ва „Пчала“ Людвікі Войцікавай.

## На што трэба зьвярнуць увагу арганізуючы пчальнік.

Перад тым, як арганізаваць пчальнік, трэба добра пазнаёміцца з варункамі сваей ваколіцы ў стасунку да ліку, якасьці і пары красаваньня мядовых расьлін.

Есьць ваколіцы, дзе праз увесь сэзон ад раньняй вясны да восені адныя мядовыя расьліны наступаюць беспасярэдня па другіх, і то не ў малым ліку, у іншых за тое паміж аднэй выдатнай расьлінай ды другой, такой самай, ёсьць вялікі перарыў, у які пчолы, ня маючы чаго зьбіраць, зьядаюць раней сабраныя запасы.

І вось, як спосаб гаспадараваньня, так і лік сямей, якія можна трымаць у пчальніку, залежаць ад вышэй паказаных уласьцівасьцяў ваколіцы.

Далей, ня меньш важнае пытаньне, на якой адлегласьці ад пчальніка павінны знаходзіцца мядовыя расьліны, каб пчолы маглі іх добра выкарыстаць.

Як ведама, пчолы, шукаючы пажывы, могуць заляцець на адлегласьць 5 кілямэтраў. Але ці такая вытрываласьць пчалы мае практычнае значэньне? На гэта хай нам адкажа досьлед аднаго пчаляра, які разказывае на старонках пэўнае пчалярскае часопісі наступнае: Пчальнік разкашчыка знаходзіўся ў мяйсцовасьці зусім беднай мядовымі расьлінамі, толькі ў некаторай адлегласьці было 5 вялікіх ліповых паркаў (садоў). Першы з іх ляжаў на $3^1/_2$ кілямэтр., другі на 4-х, трэцьці і чацьвёрты на $4^1/_2$ кіл., а пяты на $5-5^1/_2$ кіл. Ліпа красавала пачынаючы з 10—12 ліпеня, тады, як іншых мядовых расьлін амаль што ня было. Здавалася, што вульлі павінны быць заліты ліповым мёдам. Тымчасам ліповага мёду і сьледу ня было. А сусед аўтара расказу, якога пчальнік знаходзіўся блізка ліповых паркаў, меў да 6 кіл. мёду на адзін вулей у дзень.

Апіраючыся на вышэй пададзены досьлед, можам сьмела сказаць, што адлегласьць галоўных мядовых расьлін ад пчальніка не павінна быць большай, чым $2 - 2^1/_2$ кілямэтры ў радыюсе (навокал).

Разгледзіўшыся па сваей ваколіцы, пазнаўшы яе добрыя і благія бакі, будучы пчаляр павінен выбраць адпаведнае мейсца на пчальнік.

Мейсца гэткае не павінна быць лішня блізка хаты і хлявоў. Блізка хаты—пчолы будуць непакоіць яе жыхароў. Блізка хлявоў — пчолы будуць раздражнены ня любым для іх водарам жывёлы.

**Мейсца на пчальнік павінна быць закрытае ад ветру.** Вецер, перадусім, перашкаджае пчолам утрымаць вясною патрэбную ў вульлі тэмпэратуру; па другое вецяр вельмі перашкаджае пчолам пападаць у вылет, калі яны змучаныя і абцяжаныя варочаюцца з поля,—ён іх адкідае ў бок, або кідае на зямлю і тады пчолы прымушаны ізноў падымацца над вульлём, зрабіць круг, каб знайсьці свой вульлей і папасьці ў яго.

Наскольki на пчальніку не павінна быць вялікага ценю, настолькі ён не павінен быць пустым і зусім адкрытым. Дрэвы і кусты патрэбныя ў пчальніку ня толькі дзеля таго, што яны бароняць ад ветру, але і дзеля таго, што памагаюць варочаючымся пчолам і маткам арыентавацца пры адшуківаньні свайго вульля. Бяз дрэваў і кустоў у пчальніку пчолы блудзяць і пападаюць у чужыя вульлі. Праўда, што пчолы з мёдам або пылком ўсюды ахвотна прыймаюцца, затое маткі забіваюцца напэўна.

На пчальніку вульлі ставім па магчымасьці рэдка, у найгоршым выпадку на мэтры 2 адзін ад аднаго вылятамі на паўднёва-ўсход.

Што тычыцца адлегласьці вульля ад зямлі, то, зьвярнуўшы ўвагу на тое, шло блізка зямлі вульлей нацягівае шмат вільгаці, практычныя пчаляры радзяць ставіць вульлі ня ніжэй, чым на 30 цм. ад зямлі.

**Л. Войцікава.**

---

# Аб пчалінай сям'і.

Кожны, хто займаўся пчоламі ці знаёміўся з імі па кніжцы, ведае, што пчаліная сям'я складаецца з маткі, рабочых пчолаў і трутняў. Матка ў вульлі толькі адна, рабочых пчолаў некалькі дзесяткаў тысячаў (каля 60.000), трутняў некалькі сотак і то толькі ў летнюю пару. Матку часта называюць царыцай, але гэты назоў мала ёй адпавядае, бо матка — ёсьць толькі „маткай" і па-за гэтым больш нічога. На яе абавязку ляжыць работа класьці яечкі, з каторых выходзяць маткі, рабочыя пчолы і трутні. Рабочыя пчолы выконваюць усе работы і кіруюць усімі справамі вульля. Рабочыя пчолы шукаюць і абіраюць новае памешканьне. За некалькі дзён да раеньня, яны пасылаюць свае разьведкі, каторыя павінны знайсьці памешканьне для новага рою. Разьведчыкі аблётываюць ваколіцу, заглядаюць у кожны куток, у кожную дзірачку, ці ня будзе там падходзячага мейсца для новага рою. Калі знойдуць такое памешканьне, заклікаюць другіх і бяруцца за работу: чысьцяць і парадкуюць яго. Рабочыя пчолы даюць загад раеньню. У адпаведны час дня вылятаюць з гукам з вульля. Матка мусіць падпарадкавацца пчолам.

Часта здараецца, што матка ня хоча выходзіць з вульля, тады пчолы варочаюцца ў вулей, але на другі дзень, калі добрая пагода, зноў вылятаюць і змушаюць такім чынам матку да выляту. Матка ня ведае, дзе выбрана пчоламі новае памешканьне, і яна мусіць дзяржацца кірунку, паказанага разьведчыкамі. Заняўшы новае памешканьне, пчолы чысьцяць яго, залепліваюць пчаліным клеям (прополісам) усе дзіркі, апрача вылетнага. Зараз-жа робяць з воску, ка-

торы выходзіць з цела пчолаў, як у нас пот, вашчыну. У каморкі вашчыны складаюць мёд і пылок, прынесеныя з сабою, а матка кладзе яйкі. Калі з яек, паложаных маткаю, выйдуць чарвячкі, рабочыя пчолы кормяць і даглядаюць іх. Калі ў вульлі ад якой колечы прычыны зьгіне матка, пчолы выводзяць сабе новую, паскольکі ёсьць адпаведныя варункі: яйка паложанае папярэдняй маткай або чарвячок не старэйшы трох дзён Трутні ў вульлі, што быкі ў статку. На вёсцы вельмі часта можна пачуць, што трутні—гэта ваданосы, што на іх ляжыць абавязак насіць ваду ў вулей. Але гэта няпраўда. Вада ў вульлі патрэбна, але яе носяць ня трутні, а рабочыя пчолы. Каля калодзісаў ці лужынаў часта можна ўбачыць рабочых пчолаў, каторыя бяруць ваду, але ніхто ніколі ня бачыў каля вады трутняў. Яны вылятаюць з вульля тады, калі можа выляцець маладая матка, каб спаткацца з ёю, а рэшта часу сядзяць у вульлі і нічога ня робяць. Увосень, калі трутні ўжо непатрэбныя, рабочыя пчолы выганяюць іх з вульля.

З усяго вышэйсказанага бачым, што жыцьцё маткі, рабочых пчолаў і трутняў у адным вульлі цесна зьвязаны паміж сабою, а гэта дзеля таго, што, як матка, так і рабочая пчала і труцень ня ёсьць суцэльныя, усебакова разьвітыя арганізмы, здольныя да самастойнага жыцьця. Ніводнае з іх асобна жыць-бы не змагло: ні матка, якая ня можа сама сабе здабыць ежу, або збудаваць гняздо, ці выкарміць дзетак, ні пчолы—работніцы, якія ня могуць размнажацца, ні труцень, які таксама, як і матка ежы не здабудзе і памешканьня ня зробіць. Толькі ў супольнай грамадзе, якую называем роям ды які зьяўляецца суцэльным зложаным арганізмам, яны могуць жыць і множыцца.

**М. С.**

---

# Мядовыя расьліны у шматпольнай гаспадарцы.

Першым, хто пачаў заклікаць пчаляроў прыняць удзел у паднясьці інтэнсыўнасьці сельскай гаспадаркі быў слаўны ўкраінскі пчаляр П. У. Пракаповіч. Другі пчаляр І. Н. Клінген кінуў магічнае слова—пчалапольная гаспадарка,—якое адразу паказала цесную сувязь паміж пчалярствам і сельскай гаспадаркай. Пасьля Клінгена кожнаму гаспадару лёзунг—бяз удзелу пчалы немагчыма вясьці рацыянальную гаспадарку — стаў ужо прадстаўляцца, як нязьбітая праўда.

Пастараемся цяпер выясьніць, якім чынам пры помачы пчалы мы зможам перайсьці ад даўнейшай экстэнсыўнай (мала карыснай) гаспадаркі, да інтэнсыўнай.

Перадусім, мы мусім заўважыць, што інтэнсыўнай можа быць толькі гаспадарка рацыянальная (разумная).

Рацыянальнай-жа гаспадаркай будзе такая, у якой выкарыстоўваюцца ўсе творчыя сілы прыроды.

Чалавек толькі пры помачы пчалы зможа сабраць салодкі сок разьліты ў мностве кветак. Значыцца, калі ў гаспадарцы няма пча-

лы, то аграмадны лік нэктару бескарысна прападае. З другога боку, пры помачы пчалы чалавек здабывае воск. Нарэшце, дзякуючы зьбіраньню пчоламі пылку, адбываецца запыленьне кветак, без якога шмат якія расьліны не змаглі-б выдаць овачаў, а прынамся выдалі-б іх у далёка ня поўным ліку. Даволі тут ўспомніць, што грэчка ў прысутнасьці пчолаў дае ў двое больш насеньня, чым бяз іх.

І так, калі пчалы няма ў нашай гаспадарцы, то перадусім няма ў ліпаўках мёду. Калі-ж у нас няма мёду, то гэта значыць, што мы, дабравольна выракаемся тых дараў, якія нам ахвяроўвае сама прырода. Па другое, ня маючы пчолаў, мы тым самым зракаемся воску. Па трэцяе, бяз пчолаў мы трацім палову ўраджаю насеньня.

Узяўшы пад увагу ўсё сказанае, ці можна лічыць сельскую гаспадарку рацыянальнай, калі ў ёй пчала ня прымае ўдзелу?

Даказаўшы, што бяз удзелу пчалы гаспадарка ня можа быць рацыянальнай, паглядзім цяпер, якія мядовыя расьліны, якое мейсца ў шматпольлі займаюць, і якое, урэшце, значэньне яны маюць у кожным паасобным выпадку.

Назавём важнейшыя мядовыя расьліны, якія маюць сельскагаспадарчае значэньне:

1) Грэчка, фасоля (шальбабоны), гарох, боб, адначасна служаць ежай чалавеку.

2) Дзяцяліны (канюшыны), баркуны, эспарцэта, люцэрна, віка, сэрадэля і іншыя матыльковыя, служаць пашай для жывёлы і апрача таго пры іх помачы зямля багацее азотам.

3) Сонечнік, гарчыцы, сьвірэпа—даюць алей.

4) Аныж, кмін, мак, цыкорыя, валерыян, мяты, шалвея, мэліса,—адначасна расьліны лекарскія, або служаць як прыправы.

Урэшці ёсьць расьліны чыста мядовыя, як: фацэлія, агурочнік, асацец і шмат другіх, якія пасеяныя ў большым ліку, даюць вялікі даход мёдам і насеўкам.

па Л. Е. Арэнсу.

(Працяг будзе).

# Пытаньні і адказы.

Пытаньне 5. Як і колькі можна даваць коням жыта, каб ня мець страху, што жывёла можа прапасьці? Мне часта даводзілася карміць коней жытам. А цяпер гэта мае і сэнс, бо жыта танейшае за авёс. Але вось, летась сусед мой абкарміў сваю кабылу жытам і тая прапала. Пасьля гэтага і я набраўся страху, і жыта коням не даю.

Адказ. Найлепей коні зусім не карміць жытам, але бывае часта, што ў гаспадара няхопіць аўса, а купіць яго няма за што, то хоцькі-няхоцькі, а прыходзіцца карміць і жытам. Жыта вельмі багата на пажыўныя складнікі, да таго цяпер, як Вы кажаце, яно і танейшае за авёс — знача карміць ім было-б вельмі карысна.

Жыта зьяўляецца кепскім кормам таму, што яго крахмалёвыя зярняты вельмі павольна набухаюць ад вільгаці, нават і пад уплывам жалудачных сокаў. Дзякуючы гэтаму, паўстаюць розныя неправіловасьці ў траўленьні, жывёла недамагае і нават можа загінуць.

Дзеля таго, каб зрабіць жыта як найменш шкодным для коні, трэба яго ў цёплаватай вадзе памачыць у працягу 12 гадзін і болей.

Коні мусяць прывыкаць да жытняга корму. Даваць спачатку яго малую колькасьць і потым за кожным разам павялічваюць яе. Ува ўсякім разе можна замяніць жытам ня больш аднае траціны агульнае колькасьці аўса, якую мы даём коням на дзень. Ня можна даваць жыта коням хворым і жаробным кабылам, а таксама ня можна даваць і тым, якія не працуюць.

Пытаньне 6. Парадзьце, як можна будаваць агняадпорныя будынкі. Міхась С.

Адказ. Коратка адказаць на гэтае пытаньне нельга. Радзім выпісаць з беларускай кнігарні (Wilno, Ostrobramska 1) брашурку „Змаганьне з пажарамі", А. Бараноўскага. Кніжачка гэта каштуе без перасылкі 1 злоты.

7. Негерыту П. Цэннік насеньняў хутка Вам будзе высланы.

8. Кейдзюку Т. Падпісная плата на „Саху" за паўгода—3 злоты. Вас залічылі платным падпішчыкам са студзеня па чэрвень 1931 г. уключна і „Саху" Вам пасылаем. Больш за тыя 3 злоты, што ад Вас атрымалі, нічога выслаць ня можам. Старыя гадавікі „Сахі" можа выслаць Вам бел. кнігарня (Wilno, Ostrobramska 1).

Далей Вы пералічаеце, што для Вас незразумела ў № 4 „Сахі" за 1929 г. і з чым Вы там не пагаджаецеся. На гэта можам сказаць, што рэдакцыя „Сахі" ў цяперашнім складзе ня кіравала часоп. „Саха" ў 1929 г. і выдавец тады быў іншы.

Адказ па цікавячых Вас пытаньнях знойдзеце часткаю ў гэтым нумары „Сахі" (чыт. арт. „Сэрадэля"), а адказы на рэшту пытаньняў дзеля недахопу мейсца ў гэтым нумары не падаём, а падамо ў наступным.

9. Кобусю І. Вам № № 2, 3 і 4 „Сахі" высланы.

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

## Сойм і ўрад.

### Бюджэтная дыскусія ў Сойме.

У апошні дзень студня бюджэтная камісія Сойму скончыла разгляд бюджэту.

Агульны рэзультат працы камісіі такі:

Камісія прапануе ўпаважніць урад на выданьне на дзяржаўныя патрэбы—ад 1 красавіка 1931 г. да 31 сакавіка 1932 г.,—усяго 2 мільярд.843 мільён.3,780 зл. народных грошаў., прадбачачы на пакрыцьцё гэтых выдаткаў дзяржаўных даходаў на агульную суму 2.857,312,474 зл.

Апазыцыя ў часе дыскусіі стваралася давясьці, што такі вялізарны бюджэт кладзецца залішнім цяжарам на нябывала згалеўшае — у выніку бясспыннага гаспадарчага крызісу — насяленьне краю, а таму лічыла бюджэт у значнай меры нават нерэальным, г. знач.— немагчымым да зьдзейсьненьня...

5 лютага пачалася агульная дыскусія над бюджэтам на пленуме сойму.

З пачынаньняў ураду і пастановаў Сойму за апошні месяц адзначым наступныя.

### Зьніжэньне цэнаў на прамысловыя тавары.

Міністэрства гандлю і прамысловасьці, як заявіў мін. Прыстор, мае распачаць пляновую акцыю зьніжэньня цэнаў на прамысловыя тавары, асабліва — такія, якія патрэбны для вясковага хлебароба. Акцыя гэтая — канечна патрэбная, бо гэта ня толькі дасьць магчымасьць згалеўшаму селяніну больш карысна для сябе абменіваць страшэнна станеўшыя прадукты сваей сельскай гаспадаркі на вырабы мястовай прамысловасьці (купляць тавары), але і значна пашырыць рынак для збыту гэтых тавараў у краі, без чаго краёвая прамысловасьць церпіць усьцяж страшэнны крызіс, ня маючы ані замежных, ані ўнутранага рынкаў.

Нажаль урад, трэбуючы зьніжэньня цэнаў ад прыватнай прамысловасьці, ня зьніжае сам цэнаў на прадукты дзяржаўных манаполяў. Наадварот — цэны на сярнікі значна (—на 30%) падвышаны. Урад мае падвысіць на 10% некаторыя падаткі.

### Барацьба ўраду з крызісам земляробства.

Асабліва цікаўная для нашых гаспадароў праграма ўраду ў галіне зямляробства. Міністар земляробства ў сваей прамове ў бюджэтнай камісіі высьветліў залежнасьць гаспадарчага ў частцы — сельска-гаспадарчага крызісу ў Польшчы ад сусьветнага эканамічнага крызісу, зьнізіўшага цены на збожа ў Польшчы за апошнія 3 гады на 50%, ці — напалову. Міністар абяцае, што ўрад дало-

жыць усіх стараньняў, каб дапамагчы вёсцы ў яе барацьбе з крызісам — і крэдытам, і дапамогай у яе гаспадарчай самаарганізацыі, і забароннымі мытамі на заграцічныя сельска-гаспадарчыя тавары. Міністар дадаў, што толькі дзякуючы ўсім гэтым крокам ураду ўдалося затрымаць на сучасным роўні ўсцяж спадаўшыя цэны, вытрымаўшы без шкоды нават далейшы „падрыўны ўвоз“ („дэмпінг“) у Польшчу збожжа з СССР. Урэшце міністар абяцаў арганізаваць шырокі крэдыт для хлебаробаў — на падставе вялікай заграцічнай пазыкі.

Трэба аднак-жа адзначыць, што ня менш цікаўнае для беларускага хлебароба міністэрства зямельных рэформаў, як заявіў у камісіі мін. Казлоўскі, мае „прыняць меры к надзяленьню зямлёю на ўсходніх крэсах перасяленцаў (асаднікаў) з цэнтральных ваяводзтваў Польшчы“...

Як гэта вяжацца з абвешчанай Б. Б. агульнай прыхільнасьцю да патрэбаў і жаданьняў беларускага народу, ня ведаем.

## Справа Берасьця ў Сойме.

Аб усхваляваўшай грамадзкую апінію ў Польшчы і заграніцай так-званай справе „Берасьця” прэм. Славэк сказаў вельмі вострую прамову ў Сойме—у адказ на інтэрпэляцыю паслоў Цэнтралеву.

Прэм‘ер заявіў, што арышт правадыроў апазыцыйных партыяў быў канечным, бо інакш іх руйнуючая дзеяльнасьць магла нарабіць шмат шкодаў дзяржаве. Тое, што паслы пасаджаны былі ў ваенны вастрог у Берасьці, таксама было канечным: пакінуць іх у Варшаўскай турме было небясьпечна, бо іх партыйныя баёўкі маглі-б зрабіць спробу іх звольніць сілай, што выклікала-б толькі разьліў крыві. Вастрожны лад у Берасьці быў цяжкі, гэта — праўда. Але старыя барацьбіты Польшчы за вольнасьць цярпелі значна горш у турмах заборцаў. Ці былі гвалты? — „Я сам, казаў прэм‘ер, рассьледаваў справу і цьверджу, што - ані садызму, ані зьдзекаў ня было. Вязьняў толькі змушалі да послуху, а калі ўпіраліся, дык нават сілком“...

Ці замкнецца на гэтым адказе ўраду ўся справа „Берасьця“, як піша ўрадавая прэса, ці яшчэ ўзновіцца ў Сойме, як заяўляе апазыцыя, — пабачым.

## Інтэрпэляцыя Украінцаў.

Украінскія паслы падалі ў Сойм інтэрпэляцыю ў справе так-званай „пацыфікацыі“, ці „ўзьмірэньня”, дакананага ў Галіччыне польскімі ўладамі—асабліва ў часе выбарнай кампаніі. Інтэрпэляцыя дамагалася стварэньня спэцыяльнай соймавай камісіі дзеля рассьледаваньня паступкаў уладаў у Галіччыне. Камісія Сойму, галасамі ББ, а сьледам за ёй і Сойм адкінулі інтэрпэляцыю, прызнаўшы акцыю ўладаў—правільнай.

## Скасаваньне выключных законаў.

Сойм прыняў праект ураду аб скасаваньні ўсіх успадкаваных ад Расеі і Нямеччыны варожых і выключных да меншасьцяў (жыдоў) законаў, якія абмяжоўвалі правы іх у сувязі з іх рэлігіяй і нацыянальнасьцю.

## Працэс аб замаху на марш. Пілсудскага.

У Варшаве ўжо шмат часу йдзе працэс аб „спробе замаху на марш. Пілсудскага“, дакананай быццам яго былымі партыйнымі таварышамі пэпэзсамі.

Апазіцыя, як і падсудныя цьвердзяць, што ўва-ўсей гэтай „справе“ вялікую ролю адыграла правакацыя.

З працягам працэсу справа ўскладнілася новым „замахам“, ужо — на галоўнага сьведку ў справе — нейкага Пужыцкага, які, як цьвердзяць падсудныя, якраз і зьявіўся гэтым правакатарам. „Замах“ на Пужыцкага таксама нейкі сумлiўны...

## Праект новай Канстытуцыі.

Клюб Б. Б. падаў у Сойм свой праект новай Канстытуцыі. Праект гэты — той самы, які быў унесены фракцыяй Б.Б. у Сойм яшчэ ў пачатку 1929 г. Як ведама, галоўнай мэтай гэтага праекту зьяўляецца вялізарнае павялічэньне ўлады Прэзыдэнта ў Польшчы—коштам улады заканадаўчых палатаў.

Улада, якую клюб Б. Б. хоча даць галаве Польскае Дзяржавы, ня мае ўжо больш ніводзін манарх у Эўропе.

## Арышт былога пасла Браніслава Тарашкевіча.

У першых чыслах г. месяца арыштаваны, пры пераезьдзе праз Гданскі калідор, на станцыі Тчэв старшыня былой „Грамады“ Браніслаў Тарашкевіч.

---

# ЛІГА НАЦЫЯЎ.

Сярод 2 дзясяткаў спраў, якімі займалася студнёвая сэсія Рады Лігі Нацыяў, зусім асаблівую зацікаўленасьць выклікала справа вострага канфлікту паміж Нямеччынай і Польшчай—на груньце скаргі да Лігі з боку нямецкай меншасьці ў Польшчы.

Нямецкае насяленьне Польскай Сілезіі скардзілася на тасаваныя з боку польскіх уладаў і Саюзу Паўстанцаў гвалты ў часе апошніх выбараў у Сойм і Сэнат. Нямецкі ўрад падтрымаў вельмі рашуча гэтую скаргу, выступіўшы з свайго боку з абвіненьнем Польшчы ў нарушэньні спэцыяльнай польска-нямецкай конвэнцыі (ўмовы) аб узаемнай ахове меншасьцяў на падзеленым паміж абедзьвюма дзяржавамі абшары Верхняй Сілезіі.

Пасьля абмену даволі спакойных і дзелавых прамоваў дэлегатаў Нямеччыны і Польшчы—Рада Лігі прыняла цалком бяз дыскусіі даклад дэлегата Японіі. Даклад гэты—1) афіцыяльна прызнае цэлы рад нарушэньняў польскімі ўладамі пунктаў конвэнцыі, гарантуючай правы нямецкай меншасьці ў Сілезіі; 2) трэбуе, каб польскі ўрад у будучыні лепш ахоўваў гэтыя правы; 3) асуджае ўпрывілеяванае палажэньне ў краі Саюзу Паўстанцаў і незаконнае падтрыманьне яго польскімі ўладамі—на шкоду нямецкай меншасьці; 4) трэбуе, каб польскі ўрад паведаміў Раду Лігі да яе наступнай — маёвай — сэсіі,

якія меры польскі ўрад прыме дзеля таго, каб выканаць на дзеле ўсе гэтыя трэбаваньні Рады Лігі.

## Нямеччына і Францыя.

Толькі-што ўплывовы францускі публіцыст высунуў „сам“ (за ім кіруючыя палітыкі Францыі) думку аб „новым пляне радыкальнага прымірэньня Францы з Нямеччынай“ шляхам новых уступак Нямеччыне — як у галіне сплаты ваенных адшкадаваньняў, таксама і ў галіне зраўненьня ўзбраеньнях.

Апошняя ўступка асабліва характэрна, бо-ж акурат у той самы дзень, як зьявіўся гэты артыкул францускага публіцыста, нямецкі мін. замежных спраў Курцыус заявіў ў парлямэнце, у сваім бюджэтным экспозэ, што — калі Нямеччына не даб'ецца праз Лігу Нацыяў належнага ёй права роўнасьці ў збраеньнях з іншымі вялікімі дзяржавамі, тады яна змушана будзе выйсьці з складу Лігі...

Як бачым, Нямеччына ўсьцяж расьце і мацнее, спрытна здабываючы сабе „належнае ёй месца пад сонцам“.

## Новы ўрад у Францыі.

У канцы мінулага месяца зваліўся цэнтралевы ўрад Стэга, які здолеў пратрымацца толькі 40 дзён, дый дзякуючы толькі таму, што прэм'ер пасьпяшыў распусьціць парлямант на сьвяточныя вакацыі.

Характэрна, што гэты цэнтралевы ўрад, каторы замяніў сабой папярэдні цэнтра-правы ўрад Тард'е, скінуўшы за ўчасьце міністраў у скандальных надужыцьцях банкавых афэрыстаў, сам зваліўся блізу за тое-ж самае.

Справа ў тым, што міністар земляробства, сам буйны гандляр збожам, пастанавіў ашчасьлівіць земляробаў Францыі, падняўшы цэны на ўсялякае збожжа. Не сказаўшы аб гэтым нічога сябром па габінэту, ён аднак-жа „шапнуў“ аб сваім намеры... павадыром саюзаў мукамолаў, гандляроў збожжам і ўрэшце біржавіком ды журналістам. І вось распачалася страшэнная спэкулацыя на падвышцы цэнаў на збожжа, ад якой аднак-жа зарабілі зусім не земляробы, але выключна спэкулянты—сказаныя вышэй гандляры і мукамолы.

Таму ў парлямэнце, які ў сваёй большасьці складаецца з прадстаўнікоў сельска-гаспадарчага насяленьня, зараз жа пасыпаліся на ўрад інтэрпэляцыі і ўдары, пад цяжарам якіх урад і зваліўся.

Новы ўрад удалося стварыць паслу Лявалю 27 студзеня. Урад гэты зьяўляецца блізу тым-жа папярэднім цэцтра-правым урадам Тард'е, толькі ў ім Тард'е займае становішча ня прэм'ера, але толькі міністра земляробства.

Апошнія весткі ізноў кажуць аб новай вялізарнай банкавай афэры, якая пакрыўдзіла дробных укладчыкаў на некалькі мільярдаў франкаў.

Дык ці ня выкрыецца ізноў учасьце паноў міністраў і ў гэтай афэры?..,

Адказны Рэдактар: М. ІЛЬЯШЭВІЧ. Галоўны кіраўнік: інж.-агр. С. БУСЕЛ.
Выдавец: Цэнтральны Саюз Бел. Культ.-Прасьв. і Гаспад. Арганізацыяў і Інстытуцыяў.